*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 143 (1207)**
Аўторак, 7 жніўня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

**Надвор'е**
Сёння ўдзень па краіне захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Вецер паўднёвы, слабы. Тэмпература паветра ўначы — +16...+20, удзень — +23...+25.



ПУЛЬС

## Настаўнікаў прыціскаюць анкетай

**У сярэдняй школе № 2 гарадскога пасёлка Радунь Воранаўскага раёна настаўнікі пры атрыманні адпускных грошай павінны адказаць на пытанне анкеты "За каго вы будзеце галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах?". Пра гэта БелаПАН 3 жніўня паведаміў Іван Фясенка, мясцовы краязнаўца, настаўнік адной з воранаўскіх школ.**

Паводле яго слоў, анкета з прозвішчамі ўсіх настаўнікаў школы знаходзіцца ў дырэктара СШ № 2. І.Фясенка адзначыў, што ён валодае інфармацыяй аб распаўсюджванні падобных анкет не толькі ў мясцовых школах, але і на прадпрыемствах. Ён адзначыў: "Ідэя анкетавання, безумоўна, з'яўляецца ініцыятывай мясцовых уладаў. Настаўнікі баяцца адказваць так, як яны думаюць, таму пазначаюць толькі адно, вядомае ўсім, прозвішча".

**Павел МАЖЭЙКА.**

## Халера ездзіць у цягніках

**Міністэрства аховы здароўя Беларусі робіць захады па прадухіленні захворванняў на халеру, выпадкі якой днямі былі зарэгістраваны ў Казані.**

Як паведаміў карэспандэнту БелаПАН загадчык аддзела эпідэмнагляду за каранцінам і асабліва небяспечнымі інфекцыямі Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Міністэрства аховы здароўя Дзмітрый Крохін, незалежна ад эпідэмічнай сітуацыі ў памежных краінах, у Беларусі дзейнічае сістэма гатоўнасці ўстаноў на выпадак выяўлення ці падазрэння завезеных асабліва небяспечных інфекцый. У асноўным падобныя інфекцыйныя захворванні ў рэспубліку трапляюць чыгуначным транспартам. У сувязі з гэтым па ўказанні Міністэрства аховы здароўя праводзіцца дадатковы інструктаж персаналу ведамаснай дарожнай санітарнай службы, а таксама праверкі санітарнага стану цягнікоў і іх забяспечанасць дэзінфекцыйнымі сродкамі.

Як адзначыў Дз. Крохін, апошнія выпадкі ўвозу халеры ў Беларусі былі адзначаны ў 1994 — 1996 гг. На сёння, паводле яго слоў, эпідэмічная сітуацыя ў рэспубліцы не выклікае апасенняў.

## Затрымана 15 валанцёраў "Часу перамен"

**Учора апоўдні актывісты незарэгістраванай маладзёжнай арганізацыі "Час перамен" каля сталічнага кінатэатра "Перамога" вырашылі распаўсюдзіць лістоўкі і спецвыпускі незалежных выданняў. Аднак адразу пасля пачатку раздачы "падрыўной літаратуры" юнакі трапілі пад "раздачу" іншага кшталту — 15 валанцёраў арганізацыі былі затрыманы міліцыяй і дастаўлены ў пастарункі.**

Як сцвярджаюць сведкі, кіраваў затрыманнем капітан міліцыі Барсук (Цэнтральны РАУС) — той самы, які пяць дзён таму ўзламаў прыватную кватэру па вул. Заслаўскай, дзе "пераменшчыкі" сабраліся пагутарыць і абмеркаваць свае далейшыя планы.

Як паведамілі ахвяры налёту на момант здачы нумара, вакол офіса Аб'яднанай грамадзянскай партыі, які размясціўся побач з месцам акцыі, тусавалася шмат дзіўных асоб у цывільным. Прагульваліся, ці што?

**Алесь СІЛІЧ.**

## Сустрэча выпускнікоў Еўрапейскага цэнтра па пытаннях бяспекі

**У рэстаране гатэля "Беларусь" прайшоў штогадовы прыём выпускнікоў Еўрапейскага цэнтра па вывучэнні пытанняў бяспекі — Цэнтра імя Джорджа Маршала ў Гармішы (Германія). Гэты амерыкана-германскі праект існуе з 1993 года.**

Сярод удзельнікаў мерапрыемства ў "Беларусі" былі паслы ЗША і Германіі ў Беларусі Майкл Козак і Хорст Вінкельман, дырэктар Цэнтра імя Маршала доктар Роберт Кенедзі, ваенныя аташэ шэрагу замежных дзяржаў.

У сваім прывітальным слове сп. Козак, у першую чаргу, заўважыў, што многія не ведаюць сапраўднага прызначэння цэнтра, ці былі дэзінфармаваныя на гэты конт. "Яго прызначэнне — умацоўваць стабільнасць у свеце на аснове партнёрства і мірнага супрацоўніцтва", — заявіў пасол. Такая заява, хутчэй за ўсё, была выклікана той акалічнасцю, што нядаўна ў Мінску па абвінавачанні ў шпіянажы быў асуджаны былы выкладчык Цэнтра імя Маршала грамадзянін Германіі Крыстафер Лец.

Дырэктар цэнтра доктар Кенедзі выказаў спадзяванне, што больш беларускіх грамадзян будуць абучацца ў цэнтры. "Людзі ў Беларусі сапраўды вельмі таленавітыя, — сказаў сп. Кенедзі. — Ваша краіна і вашы людзі могуць многае прапанаваць міжнароднай супольнасці".

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Американский посол говорит, что после выборов отношения США и Беларуси могут потеплеть, но только при условии, если выборы пройдут по международным стандартам

**Агентство "Ю.С.Ньюс"**

В минувшую пятницу Александр Лукашенко заявил, что в случае его переизбрания президентом "отношения Беларуси с Западом станут еще теплее, чем у стран, которые сейчас считают свои отношения с Западом теплыми".

В тот же день это заявление по просьбе "Ю.С.Ньюс" прокомментировал посол США в Минске Майкл Козак:

— Как я уже сказал, отношения впоследствии будут значительно лучше или значительно хуже — в зависимости от того, как будут проведены выборы. Я надеюсь, что это знак от президента, что он намерен обеспечить проведение выборов в соответствии со всеми международными стандартами. И в этом случае он вполне прав — отношения станут значительно более теплыми.

Посол США отверг обвинения Лукашенко в создании компьютерной сети для фальсификации итогов выборов.

На совещании с "вертикалью" 31 июля Александр Лукашенко заявил: "Мы нащупали эти компьютерную связь — собственность США. Поставлены американцами через посольство американское компьютеры, установлены в каждом районе. В момент выборов 15-17 тысяч наблюдателей, которые они хотят собрать, на выходе — это югославский сценарий — опрашивают избирателей: "Вы за кого? За того? За того?" — неважно, что они скажут. К моменту закрытия участковых избирательных комиссий по компьютерной связи, коммуникационной связи информация сбрасывается в несколько центров... Эту информацию получают все западные руководители. До начала подсчета официального, законного голосов объявляется некий белорусский Коштуница".

Вот как прокомментировал посол США в Беларуси Майкл Козак эти утверждения:

— Соединенные Штаты, как и многие другие страны и организации, предоставили в дар или в аренду различное оборудование и другую помощь разным неправительственным организациям, независимой прессе, не говоря уже о правительственных учреждениях. Мы



предоставили оборудование и помощь государственным университетам и государственным библиотекам, мы только что на прошлой неделе открыли больницу в Гомеле.

Поэтому нет секрета в том, что мы все это сделали. Мы публикуем это, очень открыто. Среди этой помощи были компьютеры, которые идут разным организациям по всей стране и, опять же, используются очень открыто.

Соединенные Штаты также оказывали помощь — вместе со многими другими странами в рамках ОБСЕ — белорусскому народу в развитии сети независимых наблюдателей для наблюдения за выборами в Беларуси. Правительственные чиновники постоянно говорят нам, что это право, которое имеет каждый белорус согласно Конституции, — наблюдать за выборами. Это весьма традиционная вещь, которую делают сейчас во всех странах. Это задумано для того, чтобы увеличить уверенность и доверие к результатам выборов — если выборы являются прозрачными и другие люди могут видеть их.

И, очевидно, когда вы наблюдаете, вам также нужен какой-то способ сбора этой информации. Я не могу говорить как о факте, но я не удивлюсь, если некоторые из неправительственных организаций, участвующих в сети наблюдения, будут использовать некоторые из своих компьютеров или наши компьютеры с этой целью — как часть внутреннего наблюдения.

Но весьма безответственно говорить, что сеть внутреннего наблюдения тождественна сети фальсификации выборов. Потому что вся идея состоит в том, что эта сеть призвана сделать вещи более прозрачными. Это все хорошо видно вам, представителям прессы, международным наблюдателям. Так что никто не должен быть обеспокоен, что этим будут злоупотреблять ради превратной цели, — заявил Майкл Козак.

# ЗАЯВЛЕНИЕ

**претендентов в кандидаты на пост Президента Республики Беларусь Владимира Гончарика и Семена Домаша**

Мы, участники "пятерки" претендентов на пост Президента Республики Беларусь, сумевшие преодолеть стотысячный барьер сбора подписей, — Владимир Гончарик и Семен Домаш, благодарим всех граждан Беларуси, кто не пожалел своих сил, чтобы широкая гражданская коалиция добилась успеха на первом этапе избирательной кампании. Мы благодарим наших соратников по "пятерке", членов их инициативных групп за вклад в общее дело. Мы благодарим всех, кто сказал "да" демократическим выборам и переменам.

В последнее время белорусскими государственными средствами массовой информации распространяются слухи о противоречиях между нами. Мы с полной ответственностью заверяем граждан Беларуси, наших сторонников, что остаемся верны принятым на себя обязательствам — идти вместе к нашей общей победе.

Мы заявляем, что наша договоренность о выдвижении единого кандидата на предстоящих президентских выборах остается в силе. В рядах наших соратников по борьбе нет разногласий и колебаний. Число наших сторонников растет день ото дня.

Мы отдаем себе отчет в том, что на нас смотрит страна. Она ждет наших действий, чтобы вздохнуть широко и свободно и навсегда избавиться от страха, вражды и обмана.

Мы призываем наших сторонников, всех, кто называет себя Гражданами Республики Беларусь, сплотиться ради достижения нашей общей цели, ради будущего нашей Беларуси.

Пройдем эту дорогу вместе и добьемся победы!

В Единстве — наша сила!

**Владимир ГОНЧАРИК** **Семен ДОМАШ.**

ХТО — КАГО?

## Лукашэнка спрабуе "спыніць заразу"

### "Малады фронт" адказаў на гэта адпаведнай акцыяй

У сваім скандальным выступе 31 ліпеня А.Лукашэнка страшыў усіх тым, што супраць яго пачалася інфармацыйная вайна, і таму ён будзе спрабаваць лакалізаваць "гэтую заразу" ў межах Мінска. "Малады фронт" зрабіў свой адказ Лукашэнку. У наступныя ж дні ён працягнуў шырокую кампанію па распаўсюджванні інфармацыі. Жыхары сталіцы і двух абласных цэнтраў на захадзе краіны змаглі атрымаць дзесяткі тысяч асобнікаў незалежнай прэсы.

У Брэсце маладафронтаўцы распаўсюджвалі свой веснік. Аднак раздача была гвалтоўна спынена ўзброенай міліцыяй. Затрымалі старшыню мясцовай арганізацыі Сяржука Бахуна, намесніка старшыні Алеся Ушакова і актывіста арганізацыі Андруся Хоміча. Да хлопцаў пад'ехала машына, у якую іх без разбіральніцтва загрузілі і адвезлі ў Ленінскі РАУС, дзе склалі пратакол і абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным пікеце. Пасля 3-гадзіннага затрымання ўсіх адпусцілі. Цяпер яны чакаюць позвы ў суд. Варта нагадаць, што Сяржук Бахун нядаўна выйшаў з турмы, дзе адбыў 10 сутак арышту за распаўсюджванне Дэкларацыі правоў чалавека.

У Гародні падчас чарговай раздачы незалежнай прэсы былі затрыманы Віталь Дзярнейка, Ігар Трафімовіч, Вольга Іванова і Сяргей Лішанкоў. Затрымліваў маладафронтаўцаў вядомы ў горадзе капітан Вялічка. Але міліцыя ўсё ж такі спазнілася: да яе прыезду было раздадзена 10.000 асобнікаў "Рабочага" і "Предпринимательской газеты".

**Антон КОРЗУН.**



НУ И НУ!

## Господин Долголев "душит" местную "вертикаль"

Уважаемая редакция "Народной воли"!

Хочется через страницы вашей газеты сказать о вопиющих фактах грубого нарушения законодательства о выборах, причем не рядовыми гражданами, а высшими должностными лицами государства.

О чем идет речь? 1 августа Ганцевичский район посетил губернатор Брестской области Василий Долголев. В этот же день в районе находился председатель Высшего хозяйственного суда Владимир Бойко.

В 13.00, собрав в зале Дома советов огромную аудиторию, главным образом состоящую из руководителей хозяйств, предприятий, председателей сельских Советов и других руководящих работников, Долголев, а позже г-н Бойко в течение двух часов убеждали в том, что на предстоящих выборах необходимо поддержать нынешнего президента А.Лукашенко. Было заявлено, что с этой целью создано общественное объединение "Цитадель", основной целью которого является (цитирую): "поддержка президента на предстоящих выборах..." Аудитории был представлен лидер областного объединения, которым оказался председатель областного Совета депутатов по Брестской области (фамилии не помню). Представили тут же и новоиспеченного районного лидера объединения "Цитадель" председателя комитета по экологии Ганцевичского района А.Сызранцева.

В выступлении Долголева было много сказано о тех "достижениях" и "победах", которых достигла Беларусь за период правления А.Лукашенко, а именно: и то, что у нас нет войны, и то, что платятся пенсии, и то, что у людей появилась уверенность в завтрашнем дне и т.д. Крайне неприятно было слышать ту ложь, которая была высказана в адрес оппозиции и в адрес их лидеров. Хотя все знают: оппозиция никогда не была у власти и она не могла повлиять на решение судьбоносных проблем страны.

Одним словом, выступления главных "вертикальщиков" были открытой агитацией за потенциального кандидата в президенты Лукашенко. В этой связи хочется спросить и у Долголева, и у Бойко: "Почему нарушаете Закон? Или губернаторам областей и председателям судов предусмотрены особые права и полномочия в Законе о выборах?"

Не поддается никакому объяснению тот факт, о котором заявил господин Долголев: "Каждому члену инициативной группы по сбору подписей в поддержку Лукашенко, будут в ближайшее время переданы благодарственные письма с личной подписью президента..." Василий Борисович, о таких вещах вслух не говорят, да еще накануне предвыборной агитации.

Еще один интересный факт. Как стало известно, председатель Ганцевичского райисполкома Владимир Столяр на одном из аппаратных совещаний указал на недостойное поведение главного инженера коммунхоза города Ганцевичи А.Галяка и председателя колхоза "Большевик" Н.Новика за то, что они поставили свои подписи в поддержку Чигиря и Домаша соответственно. Интересно, Владимир Михайлович, откуда Вам известно о том, кто за кого подписался? Имейте смелость в этой ситуации накануне выборов хотя бы промолчать, а не упрекать человека за свое волеизъявление.

Разгулу "вертикали" нет предела. Но мы все помним, как когда-то нас заставляли поддерживать В.Кебича. И все знаем, чем это закончилось.

**Петр ГУЗАЕВСКИЙ.**



Фото IREX/ProMedia.

ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

## Бессердечие и цинизм вызывают возмущение и тревогу

*Г-ну Лукашенко А.Г.*

Любые проявления бессердечия и цинизма у нормальных людей вызывают вполне понятное возмущение и тревогу. Но когда такое публично демонстрируется Вами, человеком, наделенным не только огромной властью, но и не меньшей ответственностью, — этому нет объяснения.

Выступая недавно по телевидению, Вы не постеснялись назвать поездку убитых горем женщин — жен исчезнувших известных политических деятелей — "митусней", а материалы, дающие надежду на установление истины — "мусором". Вы не проявили ни человеческого участия к беде, переживаемой родными и близкими пропавших, ни вполне ожидаемого от главы государства желания разобраться в том, что же произошло, установить виновных.

"Громкие дела" серьезно беспокоят общественность нашей страны. Их уже не удастся замолчать. И делать вид, будто ничего не происходит, Вам не пристало не только как президенту, но и как человеку, у которого есть родные и близкие.

**В.ПОЛЕВИКОВА, по поручению Совета Белорусской партии женщин "Надзея".**

РОЗДУМ

## Іншага шанцу ў нас ужо не будзе,

### альбо Адказ чалавеку, які корміць людзей сапраўднай лухтой

Вітаю Вас, шаноўнае спадарства!

Мой ліст першапачаткова быў адпраўлены ў рэдакцыю адной лукашэнкаўскай газеты. Але, на жаль, ён быў праігнараваны гэтым выданнем. Магчыма, Вы звернеце ўвагу на мае думкі і палічыце неабходным данесці іх да чытачоў "Народнай волі".

Вырашыў Вам напісаць звычайны беларускі юнак, якому на вочы выпадкова трапіла яшчэ лютаўскае інтэрв'ю з А.Лукашэнкам пад назвай "Я не стремлюсь использовать творческую интеллигенцию в политических целях". Яно выклікала ў маёй душы хвалю абурэння, боль і крыўду. Чаго варта хаця б гэта: "В Советском Союзе было много сделано для развития белорусской национальной культуры. Не надо рассказывать, что в Белоруссии или на Украине в советские времена душили национальную культуру. Это все чепуха!

Вядома, вельмі добра, што ў СССР друкавалі (хоць і з купюрамі) творы Быкава, Шамякіна і іншых выдатных пісьменнікаў. Гэта, безумоўна, спрыяла пэўнаму развіццю нацыянальнай культуры нашага народа. Але задумаемся: якой яна магла б быць! Напэўна, А.Лукашэнка забыўся аб жудасных сталінскіх рэпрэсіях, калі толькі з 29 па 31 кастрычніка 1937 года было расстраляна некалькі дзесяткаў беларускіх пісьменнікаў, абвінавачаных у "нацыяналізме", а агульная колькасць рэпрэсіраваных дзеячаў беларускай культуры перавысіла некалькі соцень (гэта таксама "чепуха"?). Разам з імі пайшлі за краты, леглі ў магілы няздзейсненыя творы, якія, магчыма, маглі б здзівіць свет!

Чамусьці А.Р. не ўспомніў і аб моўнай рэформе 1933 года, ды і наступных "зменах і спрашчэннях" у правапісе, сінтаксісе, граматыцы нашай мовы (якую, дарэчы, у 1910 годзе на канферэнцыі ў Парыжы паставілі па мілагучнасці на другое месца пасля італьянскай). Гэтымі патрэбнымі русіфікатарам "зменамі" яе пазбавілі многіх асаблівасцяў і адметнасцяў, зрабілі нейкай жахлівай сумессю русіфікаваных беларускіх і беларусізаваных рускіх слоў (адзін "прэдзел" у матэматыцы чаго варты). Ды аб гэтым на ўвесь свет крычаць трэба, у самыя гучныя званы біць, а не называць гэта "чепухой", якая да таго ж нібыта спрыяла "развитию" культуры!

А зараз што — сітуацыя палепшылася? Якая нацыянальная культура можа існаваць у народа, цэлыя пакаленні якога вывучалі (калі наогул вывучалі) гісторыю роднага краю па падручніках, падобных на "Историю БССР" Абэцэдарскага (Мн., "Народная асвета", 1984), дзе ўся больш чым 1000-гадовая гісторыя Беларусі змешчана на 284 старонках (прычым толькі 138 з іх прысвечана перыяду да 1917 года) і дзе Вялікаму княству Літоўскаму (найслаўнейшай і магутнейшай беларускай дзяржаве Сярэднявечча) адведзена толькі 17 (!) старонак. Вось чаму зараз большая частка нашага насельніцтва згодна ганарыцца Пятром І, не ведаючы, што гэта ён знішчыў славутую на ўвесь свет Полацкую Сафію XII ст. Ці Суворавым, які бязлітасна і метадычна нішчыў паўстанцаў Касцюшкі. Згодны, каб у Мінску была плошча імя Мяснікова, які быў гатовы на ўсё, толькі каб беларускай краіны не было. Згодны, каб выдатнейшых дзеячаў беларускай культуры лічылі то палякамі, то літоўцамі, то рускімі, але толькі не беларусамі. Згодны, каб герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы Сцяг з больш чым 700-гадовай гісторыяй, народжаныя ў глыбінях народнай культуры, напоўненыя глыбокім сэнсам, пад усеагульны "одобрямс" былі названы не адпавядаючымі душы народа, "привезенымі" да нас гітлераўцамі (нечуваная кашчуннасць і хлусня!) і заменены на нейкія незразумелыя, прыдуманыя ў кабінетах герб і сцяг. Згодны, каб "продвинутый" Азаронак называў сусветнавядомага беларускага пісьменніка, сумленне нацыі, былога франтавіка В.Быкава фашыстам.

Дарэчы, усявед Азаронак зноў нам нагадаў, што неабходна ганарыцца Пятром І, разам з якім мы (дарэчы, далёка і не ўсе "мы") змагаліся са шведамі (чамусьці Азаронак не прыгадаў, што Пётр І разам з тымі ж шведамі знішчыў тады больш за трэць насельніцтва Беларусі). А яшчэ пераконваў, што ні ў якім разе не трэба памятаць Аршанскую бітву 1514 года, бо беларусы тады перамаглі Маскоўскую дзяржаву (гэта, напэўна, таксама "чепуха"). Многія згодны, каб падручнікі па гісторыі Беларусі, у якіх упершыню больш-менш аб'ектыўна былі адлюстраваны падзеі мінуўшчыны, з падачы ўсё таго ж Лукашэнкі назвалі нацыяналістычнымі і пачалі "рэдагаваць", перапісваць гісторыю, каб яна выглядала такой, як трэба сённяшнім кіраўнікам.

У той жа час амаль ніхто і ніколі не ўпамінае ні Вітаўта, ні Альгерда, ні Гедзіміна, ні Ластоўскага, ні Лышчынскага, ні Цяпінскага, ні Буднага (які, дарэчы, на 4 гады раней за Мантэскье выказаў ідэі скептыцызму), ні Сапегу, ні Статут 1588 года (фактычна першую канстытуцыю ў свеце), ні Семяновіча (які амаль на 3 (!) стагоддзі раней за Цыялкоўскага вынайшаў шматступеневую ракету), ні дзесяткі і сотні іншых славутых навукоўцаў і мастакоў, пісьменнікаў і паэтаў, палітычных і ваенных дзеячаў. Касцюшка, напрыклад, з'яўляецца нацыянальным героем ЗША і Францыі, а ў нас, на сваёй радзіме, якой прысвяціў усё сваё жыццё, ён практычна невядомы.. Забываем мы аб тым, хто мы ёсць.

Роднага краю
тутэйшыя людзі
У скуру чужацкую
лезуць жыўцом (Я.Купала).

І гэта праўда! Горкая праўда...

Дык аб якой нацыянальнай культуры і аб якім яе развіцці можа ісці размова? У грамадстве пануе нацыянальны нігілізм, многія аддаюць перавагу жахлівай трасянцы (з такім, напрыклад, шэдэўрам, як "вабшчэ"). А са старонак газет, з экранаў тэлевізараў гучаць аптымістычныя заявы аб усебаковым развіцці нацыянальнай культуры...

Што ж датычыцца пераканання Лукашэнкі аб тым, што наша мова (у адрозненне ад французскай, італьянскай, нямецкай, іспанскай і той жа рускай) быццам непрыдатная для навуковага выкарыстання ("...мы что, на белорусском языке будем изучать современную физику, математику, экономику? На белорусском языке трудно сформулировать понятия в естественных науках"), дык тое меркаванне сапраўды "чепуха".

Але беларусы — памяркоўныя, "талерантныя", церпяць гэтую лухту і абразу.

Сорамна і крыўдна... Нясцерпна бачыць, як гіне гісторыя, культура, мова, якімі б мог ганарыцца і якім бы пазайздросціў любы народ на гэтай планеце.

Калі ведаеце, дык скажыце: дзеля будучыні якой краіны мне вучыцца, чыю незалежнасць і чый спакой я буду абараняць у арміі?

Я не ведаю. Не ведаю, што адкажу сваім дзецям, калі яны спытаюць: "Хто мы?", не ведаю, як я буду глядзець ім у вочы.

Але адно ведаю дакладна: мой народ памірае. Ператвараецца ў попел усё тое, што стваралася стагоддзямі. Людзі бяздумна знішчаюць і ганьбяць нацыянальную спадчыну, пакідаюць жабракамі сваіх нашчадкаў. Як ні горка, але, напэўна, меў рацыю Пімен Панчанка, калі з нясцерпным болем пісаў:

Гэта наша настала змярканне.
Гэта з мовай маёй,
Гэта з песняй маёй
Развітанне...

Зразумець гэта — значыць не змірыцца з гэтым!

Вось чаму 9 верасня мы будзем выбіраць не новага прэзідэнта, мы будзем насамрэч выбіраць будучыню.

І дай Божа, каб апамяталіся і не паўтарылі старых памылак. Бо іншага шанцу ў нас не будзе. Ужо ніколі.

**Алесь ВІТАЎЖЫЦКІ.**

